*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 14 (1529) 7 КРАСАВІКА 2021 г.**

## Прысвяціў Alma Mater усё жыццё: у ГрДУ імя Янкі Купалы адзначылі 90-гадовы юбілей прафесара Аляксея Пяткевіча

Круглы стол, прысвечаны 90-гадоваму юбілею прафесара Аляксея Пяткевіча, зладзілі ў Купалаўскім універсітэце 31 сакавіка.

Цёплая сустрэча аб'яднала за круглым сталом усіх, хто хацеў павіншаваць вядучага навуковага супрацоўніка аддзела арганізацыйна-метадычнага суправаджэння навуковай і інавацыйнай дзейнасці, прафесара Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча.





Завітала на свята рэктар ГрДУ імя Янкі Купалы Ірына Кітурка. З хваляваннем яна падкрэсліла, што такой падзеі ў сценах Купалаўскага ўніверсітэта яшчэ не было: 90 гадоў святкуе паважаны выкладчык, 64 з якіх - амаль усё жыццё - ён прысвяціў працы ва ўніверсітэце.

- Гэта сапраўды адданасць, - адзначыла Ірына Фёдараўна. - Адданасць справе, якой прысвяцілі жыццё, і роднай зямлі, на якой Вы нарадзіліся. Дазвольце шчыра падзякаваць Вам за Вашу плённую працу, за Ваш асабісты прыклад і мудрасць, прафесіяналізм і любоў да ўніверсітэта!

Ірына Кітурка павіншавала юбіляра каштоўным падарункам і ад імя ўніверсітэта ўзнагародзіла Ганаровай граматай ГрДУ імя Янкі Купалы.



Святочнае пасяджэнне закранула асноўныя вехі жыцця, творчасці і дзейнасці Аляксея Пяткевіча. Сярод прысутных за круглым сталом былі блізкія, вучні, калегі па працы, асветніцкай, літаратуразнаўчай і культурнай дзейнасці прафесара.

Успамінамі дзяцінства падзялілася дачка Аляксея Пяткевіча - мастацтвазнаўца Марына Загідуліна. Менавіта прыклад бацькі натхніў яе пастушаць на філалагічны факультэт, а потым і стаць выкладчыкам. Асаблівы гонар прафесара Пяткевіча - унук, кандыдат гістарычных навук, дацэнт ГрДУ імя Янкі Купалы Аляксей Загідулін, які сёння таксама працягвае педагагічную дынастыю.

У словах кожнага выступоўцы круглага стала (спсп. Даніловіч, Ярмусік, Садоўская, Кебіч, Ігнатовіч і інш) гучала адмысловая гісторыя знаёмства з прафесарам, успаміны пра сумесную працу і творчасць, шчырая падзяка за каштоўныя парады і асабісты прыклад - вучонага, педагога і сапраўднага мужчыны. Вучні і калегі адзначалі, што юбіляр захаваў дзівосную працаздольнасць і вострыя розум, дзякуючы любові да людзей, узаемадзеянню з імі, паслядоўнасці ў перакананнях, думках і поглядах. Таксама падкрэслілі, што некалькі дзесяцігоддзяў мелі і маюць побач сапраўдны прыклад стаўлення да справы і роднага беларускага слова.

Мноствам шчырых слоў і розных кветак суправаджалася юбілейнае мерапрыемства, а скончылася агульным пажаданнем прысутных: абавязкова сустрэцца з урачыстай нагоды зноў.

***Паводле grsu.by.***

*(Працяг тэмы на ст 2-3.)*





### Дарагія сябры "Нашага слова"!

Як адзначалася тры месяцы назад, попыт на газету пачаў павялічвацца, і вось пачала патроху расці і падпіска, аж на 49 асобнікаў. Парадавалі Магілёў, Слонім, Валожын, Нясвіж, Гародня, Гомель і нават Барысаў. Будзем спадзявацца, што тэндэнцыя захаваецца, і газета паціху верне страчаныя пазіцыі.

| | Студзень | Красавік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 15 | 17 |
| Бяроза р.в. | 8 | 8 |
| Белаазёрск р.в. | - | - |
| Бярэсце гор. | 5 | 6 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | - | - |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | - | - |
| Івацэвічы р. в. | - | - |
| Камянец р.в. | 2 | 1 |
| Кобрын гор. | 1 | 1 |
| Лунінец гор. | 1 | 1 |
| Ляхавічы р.в. | - | - |
| Маларыта р.в. | - | - |
| Пінск гор. | 7 | 5 |
| Пружаны р.в. | 3 | 3 |
| Столін р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **43** | **43** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | - | - |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 16 | 16 |
| Верхнедзвінск р.в. | 5 | 6 |
| Глыбокае р.в. | 4 | 4 |
| Гарадок р.в. | - | 2 |
| Докшыцы р.в. | 3 | 3 |
| Дуброўна р.в. | 1 | - |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 1 | 1 |
| Наваполацк гор. | 18 | 18 |
| Орша гор. | 3 | 3 |
| Полацк гор. | 3 | 3 |
| Пастаўы р.в. | 2 | 2 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 3 | 3 |
| Чашнікі р.в. | 3 | 3 |
| Шаркоўшчына р.в. | 6 | 6 |
| Шуміліна р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **74** | **76** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 4 | 4 |
| Барысаў гор. | 4 | 6 |
| Вілейка гор. | 1 | 1 |
| Валожын гор. | 6 | 13 |
| Дзяржынск р.в. | 5 | 5 |
| Клецк р.в. | - | - |
| Крупкі р.в. | 2 | - |
| Капыль р.в. | 2 | 3 |
| Лагойск | 5 | 7 |
| Любань р.в. | 1 | 1 |
| Менск гор. | 148 | 153 |
| Менск РВПС | 10 | 10 |
| Маладзечна гор. | 9 | 9 |
| Мядзел р.в. | 1 | 2 |
| Пухавічы РВПС | 2 | 2 |
| Нясвіж р.в. | 6 | 10 |
| Смалявічы р.в. | 5 | 5 |
| Слуцк гор. | 6 | 5 |
| Салігорск гор. | 1 | 1 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 4 | 3 |
| Узда р.в. | 1 | 1 |
| Чэрвень р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **223** | **241** |

| | Студзень | Красавік |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 3 | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | - | - |
| Гомель гор. | 11 | 14 |
| Добруш р.в. | 1 | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 12 | 13 |
| Жлобін гор. | 2 | - |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | - | - |
| Мазыр гор. | 1 | 1 |
| Акцябрскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыца гор. | 2 | 2 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | - | - |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **41** | **43** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 2 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 2 | 2 |
| Воранава р.в. | 2 | 2 |
| Гародня гор. | 25 | 29 |
| Гародня РВПС | 13 | 16 |
| Дзятлава р.в. | 9 | 9 |
| Зэльва р.в. | 1 | 1 |
| Іўе р.в. | 3 | 3 |
| Карэлічы р.в. | 2 | 1 |
| Масты р.в. | 1 | 1 |
| Наваградак гор. | 3 | 3 |
| Астравец р.в. | 2 | 1 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 3 |
| Смаргонь гор. | 6 | 6 |
| Слонім гор. | 8 | 15 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в. | 1 | 1 |
| Ліда | 9 | 10 |
| **Усяго:** | **96** | **109** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | - | 1 |
| Бялынічы р.в. | - | 1 |
| Быхаў р.в. | - | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | 2 |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | 1 | - |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 3 | 3 |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | - | - |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 50 | 61 |
| Асіповічы гор. | 7 | 8 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | - |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго** | **69** | **83** |
| **Усяго на краіне:** | **546** | **595** |

І.М. Хлусевіч, А.М. Загідулін

# "Дзеля высокіх і святых інтарэсаў"

## (Да 90-годдзя прафесара Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча)

30 сакавіка адзначыў 90-гадовы юбілей прафесар Аляксей Михайлавіч Пяткевіч.

Так ужо было суджана, што, нарадзіўшыся ў мястэчку Новы Свержань на Меншчыне і правёўшы маладыя гады ў Менску (спачатку студэнтам філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, потым аспірантам гэтай прэстыжнай навучальнай установы), Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч усё сваё далейшае жыццё звязаў не са сталіцай рэспублікі, а з яе абласным цэнтрам - горадам Гродняй. Зрэшты, такі ход падзей у значнай ступені вызначыў сам будучы навуковец, які, востра адчуўшы настаўніцкае пакліканне, адмовіўся на размеркаванні выпускнікоў аспірантуры БДУ ад прапанаванага Дзяржаўнай камісіяй перспектыўнага месца ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук і, як згадвае юбіляр, "папрасіўся ў які-небудзь пединстытут". Ім аказаўся Гарадзенскі.

Усё прыйшлося па душы маладому выкладчыку ў незнаёмым дагэтуль горадзе, які адразу стаў для яго другім домам: і бацька Нёман, які больш за сотню кіламетраў адсюль ахінае яго роднае мястэчка, і старажытныя пабудовы, і ціхія вуліцы з каштанамі, і прыветны прыём рэктара Гарадзенскага пединстытута Дзмітрыя Спірыдонавіча Маркоўскага, як і ўсяго калектыву кафедры літаратуры, на якой Аляксей Міхайлавіч пачаў працаваць у 1957 г.

Навуковы шлях Аляксей Міхайлавіч пачынаў як літаратуразнавец і гісторык літаратуры. У 1963 г. у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР абараніў кандыдацкую дысертацыю "Псіхалагічны аналіз і праблема характару ў прозе Кузьмы Чорнага" пад кіраўніцтвам Ю.С. Пшыркова, якая пазней увасобілася ў манаграфію "Сюжэт. Кампазіцыя. Характар: аб прозе К. Чорнага" (Мінск, 1981). У іх прааналізаваны шэраг тэарэтычных катэгорый літаратуры і іх рэалізацыя ў творчасці К. Чорнага. Увайшоў у калектыў аўтараў акадэмічнага выдання "Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2 : Літаратура XIX - пачатку XX ст." (Мінск, 1969), а таксама ўніверсітэцкага падручніка з міністэрскім грыфам "Гісторыя беларускай літаратуры. XIX - пач. XX ст." (Мінск., 1981), што быў дапрацаваны і перавыдадзены ў 1998 г.

З 1968 па 1974 год Аляксей Міхайлавіч узначальваў створаную кафедру беларускай літаратуры, да 1990 г. заставаўся яе дацэнтам. У 1971 г. быў прыняты як крытык і літаратуразнавец у Саюз пісьменнікаў БССР. Будучы ў цёплых, прыяцельскіх адносінах з вядомымі беларускімі літаратарамі, А. М. Пяткевіч запрашаў іх ва ўніверсітэт. Так, былі арганізаваны сустрэчы студэнтаў-філолагаў з В. Быкавым, У. Караткевічам, Р. Барадуліным, Г. Бураўкіным, Н. Гілевічам, А. Карпюком, В. Іпатавай і многімі іншымі.

На мяжы 80-х - 90-х гадоў, калі павысілася цікавасць грамадства да нацыянальнай культурнай спадчыны, А. М. Пяткевіч выступіў адным з ініцыятараў шырокага ўвядзення дысцыплін, звязаных з беларускай культурай, ва ўніверсітэцкія навучальныя праграмы. Была створана кафедра беларускай культуры, якую Аляксей Міхайлавіч узначальваў з 1991 па 2001 г. Ва ўніверсітэце Аляксей Міхайлавіч на філалагічным, а пазней на гістарычным факультэтах чытаў вялікі курс гісторыі беларускай культуры. Культура становіцца датковай спецыяльнасцю на дадзеных факультэтах, якія пасля доўна атрымоўваюць назву "філалогіі і культуры" і "гісторыі і культуры". А. М. Пяткевіч выкладаў курсы "Музычна-тэатральная культура Беларусі (X-XVIII стст.)", па гісторыі журналістыкі на Гарадзеншчыне.

У 1994 г. ВАК Расійскай Федэрацыі прысвоіў А. М. Пяткевічу званне прафесара. Прафесар А. М. Пяткевіч паспяхова перадае прыклад навуковай творчасці маладзейшаму пакаленню: пад яго кіраўніцтвам падрыхтаваны тры кандыдаты навук па спецыяльнасці "Гісторыя і тэорыя культуры".

Гісторыя беларускай культуры і мастацтва, а таксама краязнаўства, рэгіяналістыка, біяграфістыка ўваходзяць у сферу навуковых даследаванняў А. М. Пяткевіча з канца 80-х гадоў. Прафесар А. М. Пяткевіч вывучае ролю ў развіцці беларускай культуры Я. Купалы і Я. Коласа, А. Міцкевіча і Э. Ажэшкі, М. Васілька і А. Карпюка, Я. Карскага, І. Анацэвіча і многіх іншых. Акрамя вядомых імён, даследуе творчасць літаратараў, навукоўцаў і краязнаўцаў Гарадзеншчыны.

Вынікі даследаванняў А. М. Пяткевіч друкуе ў матэрыялах навуковых канферэнцый, у рэспубліканскіх, абласных газетах, выданнях беларускай дыяспары за мяжой. Таксама А. М. Пяткевіч апублікаваў каля двухсот энцыклапедычных артыкулаў у "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", "Беларускай энцыклапедыі", "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", "Гродно. Энциклопедический справочник", "Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік". Грунтоўным унёскам у краязнаўства Гарадзеншчыны з'яўляюцца кнігі прафесара "Пісьменнікі прынёманскага краю" (Гродна, 1986), "Літаратурная Гродзеншчына. Мясціны. Людзі. Кнігі" (Мінск, 1996), "Старонкі спадчыны. Культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з'явы, асобы" (Мінск, 2006). У навуковай інтэрпрэтацыі культурніцкіх працэсаў на Беларусі для прафесара А. М. Пяткевіча важную ролю заўсёды адыгрывала канкрэтная асоба творцы, яе лёс, характар, матывацыя і пачуцёвасць. Дадзены падыход прасочваецца ўсю творчую дарогу навукоўца і літаратурнага крытыка, пачынаючы з яго першых артыкулаў, манаграфій і ўвасобіўшыся ў біяграфічным даведніку "Людзі культуры з Гродзеншчыны" (Гродна, 2000), які стаіць на бібліятэчных паліцах моцна растрапаны праз павышаную папулярнасць чытачоў.

Спецыфічным навуковым інтарэсам А.М. Пяткевіча з'яўляецца гісторыя перыядычнага друку і кнігадрукавання Гарадзеншчыны, што адлюстравалася ў манаграфіях “Маршруты кніжнага слова. З гісторыі кнігі, друку на Гродзеншчыне” (Варшава, 2002), "Слова і кніга Прынёмання" (Гродна, 2016). Цікавасцю да кнігі А.М. Пяткевічу ўдавалася падзяліцца праз тэлеэкран: у 1973-74 і 1976-1989 гадах ён вёў на гарадзенскім тэлебачанні праграму "Кнігарня", у якой знаёміў гледача з навінкамі мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры.

Унікальнай з'яўляецца падрыхтаваная А.М. Пяткевічам кнігаальбом "Аўтографы - разам" (Гродна, 2018), што змяшчае падаравальныя надпісы на кнігах з асабістай бібліятэкі Аляксея Міхайлавіча. Сярод 577 аўтографаў тут утрымліваюцца арыгінальныя пажаданні вядомых людзей, такіх як В. Быкаў, У. Караткевіч, Г. Бураўкін, Н. Гілевіч, Я. Брыль, Л. Геніюш, А. Мальдзіс, В. Іпатава і інш.

З нязменным клопатам аб захаванні і папулярызацыі нацыянальнай і рэгіянальнай спадчыны Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч спрычыніўся да стварэння Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-этнаграфічнага музея (Мастоўскі раён), а таксама музея Цёткі ў Астрынскай СШ (Шчучынскі раён), куды шчодра, па традыцыі, закладзенай папярэднікамі-асветнікамі, перадаваў свае рукапісы і кніжныя рарытэты.

І сёння, рупячыся аб нацыянальнай памяці, навуковец, пачынаючы з 2010-га, штогод рыхтуе і выпускае "Беларускі настольны перакідны краязнаўчы каляндар (на матэрыяле Гродзеншчыны)", змест якога складаюць круглыя даты прыкметных асоб і падзей рэгіёна. Да 90-гадовага юбілею прафесар А. М. Пяткевіч падрыхтаваў і выдаў кнігу сваіх успамінаў, што паслужаць важнай крыніцай па гісторыі як Купалаўскага ўніверсітэта, так і роднага краю.

Гэтакі пазітыўны настрой і заўсёдны аптымізм, адкрытасць разам з выключнай працаздольнасцю і неадступнай патрэбай служыць "высокім і святым інтарэсам" спрыялі педагагічнаму і навуковаму сталенню прафесара, на чым творчым рахунку сёння 537 публікацый па літаратуразнаўстве, культуралогіі, краязнаўстве, сярод якіх 18 кніг, і тысячы ўдзячных вучняў, якім Аляксей Міхайлавіч прывіў асаблівую пашану і неабыякавасць да лёсу роднага краю і інтарэс да яго вывучэння.

Аляксей Пяткевіч шырока займаецца грамадскай дзейнасцю. Ён з'яўляўся старшынём Гарадзенскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны (1989-2002 гг., 2004-2020 гг.), сябрам Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны (2002-2021 гг.), сябрам рэдкалегіі газеты “Наша слова” (1997 г. - па сёння), сябрам Рэспубліканскага навуковага савета "Народная творчасць і быт беларусаў" (1978-1989), Міжнароднага камітэта беларусістаў (1990-2000 гг.), Міжнароднага камітэта славістаў (1990-1995 гг.), з'яўляецца сябрам Міжнароднага Купалаўскага фонду (з 1991 г.).




*Пісьменнікі Гарадзеншчыны (злева направа) Алена РУЦКАЯ, Алег ЛОЙКА, Анатоль ІВЕРС, Сяргей ЧЫГРЫН, Мікола АРОЧКА, Данута БІЧЭЛЬ, Аляксей ПЯТКЕВІЧ, Алесь СУЧОК. Слонім, 1987 г.*



*Аляксей Пяткевіч з жонкай і бацькамі*


**Спіс асноўных работ:**

1. Пяткевіч, А. М. Майстэрства партрэтнай характарыстыкі / А.М. Пяткевіч // Полымя. - 1958. - № 5. - С. 218-224.
2. Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры / Акадэмія навук БССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы. Т. 2 : Літаратура XIX - пачатку XX ст. / [рэдкалегія: В.В. Барысенка і інш.]. - 1969. - 616 с.
3. Пяткевіч, А. М. Сюжэт. Кампазіцыя. Характар: аб прозе Кузьмы Чорнага / А.М. Пяткевіч. - Мінск : Мастацкая літаратура, 1981. - 157 с.
4. Гісторыя беларускай літаратуры, XIX - пачатак XX ст.: падручнік для філалагічных факультэтаў педагагічных інстытутаў БССР / [Л.С. Голубева і інш.]. - Мінск : Вышэйшая школа, 1981. - 412 с.
5. Пяткевіч, А. М. Літаратурная Гродзеншчына: Мясціны. Людзі. Кнігі. - Мн. : Выд. цэнтр "Бацькаўшчына", 1996. - 96 с.
6. Пяткевіч, А. М. Людзі культуры з Гродзеншчыны: даведнік / А.М. Пяткевіч. - Гродна : ГрДУ, 2000. - 354 с.
7. Пяткевіч, А. М. Старонкі спадчыны: культурнае памежжа Гродзеншчыны: працэсы, з'явы, асобы / А.М. Пяткевіч. - Мінск : Беларускі кнігазбор, 2006. - 239 с.
8. Матыўная прастора беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя: манаграфія / [І. В. Жук, А.М. Пяткевіч і інш.]. - Гродна : ГрДУ, 2009. - 255 с.
9. Пяткевіч, А.М. Музычна-тэатральная культура Беларусі (X-XVIII стст.): дапаможнік па курсе "Гісторыя беларускага тэатра і кіно" для студэнтаў спецыяльнасці 1-03 01 08 - Музычнае мастацтва. Спецыяльныя музычныя дысцыпліны па курсе "Гісторыя беларускай культуры" для студэнтаў усіх спецыяльнасцей / А.М. Пяткевіч. - Гродна : ГрДУ, 2010. - 47 с.
10. Пяткевіч, А.М. Слова і кніга Прынёмання / А. М. Пяткевіч. - Гродна : ЮрСаПрынт, 2016. - 207 с.
11. Пяткевіч, А.М. Пратэстанцкая друкарня ў наднёманскім мястэчку / А.М. Пяткевіч // Маладосць. - 2017. - № 3. - С. 124-127.
12. Пяткевіч, А.М. Аўтографы - разам / А.М. Пяткевіч. Гродна, ЮрСаПрынт, 2018. - 293 с.
13. Пяткевіч, А.М. Водгулле з маёй дарогі. Успаміны / А.М. Пяткевіч. - Гродна : ЮрСаПрынт, 2021.

# Сяброўскія віншаванні прафесару Аляксею Пяткевічу з 90-годдзем

90 годдзе прафесара Аляксея Пяткевіча, шматгадовага кіраўніка рады Гарадзенскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы, сябра рэдкалегіі газеты "Наша слова" з часоў заснавання адзначылі сябры некалькіх грамадскіх арганізацыяў, з якімі спадар Аляксей працягвае супрацоўнічаць. Такі, па людскіх мерках, паважны узрост, для шаноўнага прафесара стаў рысай у публікацыі ўласных успамінаў. У прасторнай зале Свята-Пакроўскага сабора ён прадставіў грамадству плён сваёй апошняй працы. У ёй, якая мае назву "Водгулле з маёй дарогі", аўтар храналагічна апавядае пра людзей, якія працавалі поруч з прафесарам цягам шасці дзесяткаў гадоў у Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы.

Кніга, своеасаблівая рэфлексія на падзеі, якія перажыў Аляксей Пяткевіч. Удзельнікі сустрэчы з імяніннікам былі пагатоў удзячныя аўтару, што ў канцы атрымалі задарма з ягоных рук гэтую кнігу успамінаў.

Павіншавалі Аляксея Пяткевіча сябры абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы: Віктар Парфёненка, Іван Буднік перадалі Падзяку ад Сакратарыяту ТБМ за подпісам старшыні, *"за вялікі ўклад у дзейнасць арганізацыі і абарону беларускай мовы"* ў цяжкі час татальнай дыскрымінацыі яе ў Беларусі.

Таксама юбіляру быў падараваны адмысловы сувенір: насценны каляндар, што выйшаў дзякуючы складкам сяброў Таварыства беларускай мовы, да якіх далучыліся сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў. Каляндар "Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч. Годнасць нашага слова." змяшчае фотаздымкі і кароткія вытрымкі з успамінаў людзей, якія добра ведаюць, ці ведалі ў сваім жыцці прафесара. Значная частка фотаздымкаў з яго асабістага сямейнага архіва. Гэты каляндар быў падараваны, у некалькіх асобніках, шаноўнаму юбіляру і яго сям'і, у знак высокай пашаны за ягонае месца ў беларускім грамадскім жыцці Гародні.

***В.П.***



***Віншаванне ў Свята-Пакроўскім саборы***







***Старонкі календара***

**Вячаслаў Целеш, мастак, г. Рыга:**

*"Вядомага навукоўца, прафесара, вельмі шаноўнага Аляксея Міхайлавіча віншуем з юбілеем!"*

**Вячаслаў Швед, доктар гістарычных навук:**

*"Віншую шаноўнага калегу і аднадумца з прыгожай датай. Жывіце, як мага больш для ўсіх нас і радуйце сваімі творамі".*

**Андрэй Майсяёнак, доктар медыцын. навук:**

*"Пяткевіч - вялікая постаць, сапраўдны прафесар! Віншую!"*

**Ігар Жук, доктар філалагічных навук:**

*"Чалавек надзвычайнай сумленнасці (вызначальная якасць, якая праз шмат стагоддзяў вызначала і вызначае стыль і каардынальныя напрамкі нацыянальна-духоўнага развіцця беларускага народа), Аляксей Пяткевіч натуральна ўваходзіць у глыбіні нашай вялікаснай духоўна-культурнай адраджэнцкай традыцыі".*

**Святлана Марозава, доктар гістарыч. навук:**

*"Аляксея Міхайлавіча - з юбілеем! Вы пішаце гісторыю культуры Прынёманскага краю. І сучасная гісторыя нашага краю пішацца з Вашым шаноўным імем. Здароўя і натхнення на творчасць!"*

**Сяргей Шапран, журналіст, пісьменнік:**

*"Годна пражываючы сваё жыццё, ён быў і застаецца адным з найвядомейшых гродзенскіх інтэлектуалаў. Не выпадкова В. Быкаў не толькі дзякаваў яму, але і называў аднадумцам і сябрам".*

**Рэдакцыя газеты "Наша слова":**

*"Аляксею Міхайлавічу, сябру рэдкалегіі "Нашага слова" з 1997 года па сёння - удзячнасць і найлепшыя зычэнні".*

***Алег Трусаў,***
*кандыдат гістарычных навук*

# ЧАТЫРЫ ДНІ У САКАВІКУ

## (З прыватнага дзённіка)

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

У канцы мінулага года Статкевіча выключылі з БСДП (НГ) і старшынём абралі сп. Ляўковіча. Станіслаў Шушкевіч тэрмінова сабраў Раду БСДГ і прапанаваў накіраваць на з'езд БСДП (НГ) прапанову аб аб'яднанні і правядзенні аб'яднаўчага з'езда ў сакавіку. Тады я быў старшынём Менскай гарадской арганізацыі БСДГ, сябрам выканкама і Цэнтральнай Рады.

Амаль усе падтрымалі Шушкевіча і прагаласавалі за канчатковае аб'яднанне. Мечыслаў Грыб, намеснік старшыні БСДГ, агучыў наш зварот на апошнім з'ездзе БСДП (НГ). Мы пачалі актыўна рыхтавацца да аб'яднання. За гэты час аб'ядналіся сацыял-дэмакраты Магілёва, Наваполацка і іншых рэгіёнаў.

Аднак у лютым месяцы гэтага года Шушкевіч на чарговай Радзе вылучыў сябе прэтэндэнтам ў кандыдаты на будучых прэзідэнцкіх выбарах, прапанаваў замест аб'яднання нейкі міфічны саюз дзвюх партый і не прызначыў даты аб'яднаўчага з'езду ў сакавіку. Большасць сяброў Цэнтральнай Рады, нягледзячы на шматлікія пярэчанні, забылася пра сваё папярэдне галасаванне і падтрымала Шушкевіча. Задаволены тым, што ён і надалей застаецца старшынём партыі, Шушкевіч чарговы раз з'ехаў за мяжу. Тады кіраўнікі рэгіянальных структур БСДГ параіліся і вырашылі ў адпаведнасці са статутам правесці партыйную канферэнцыю аднachасова з паседжаннем ЦР БСДГ. Аднак Шушкевіч адмовіўся ўдзельнічаць у партканферэнцыі, назваў прысутных "натоўпам" і "выпадковымі людзьмі" і заклікаў сяброў ЦР пакінуць памяшканне разам з ім. З 41 сябра ЦР з Шушкевічам засталося толькі 11 чалавек. Яны і выключалі нас з Аляксеем Каралём (намеснікам старшыні БСДГ) з партыі без нашага ўдзелу, у той час як статут БСДГ не дазваляе ЦР прымаць у партыю і выключаць з яе. Пазней Рада Менскай гарадской арганізацыі БСДГ пацвердзіла наша сяброўства ў партыі і звярнула ўвагу сяброў Цэнтральнай Рады на парушэнне статута.

Партканферэнцыя прагаласавала за аб'яднанне дзвюх партый, вызначыла механізм аб'яднання і прызначыла нечарговы з'езд БСДГ на 19 сакавіка.

Цікавыя людзі, аднак, спадары Статкевіч і Шушкевіч. Як ім хочацца быць да скону кіраўнікамі партый, нават калі яны віртуальныя і будуць існаваць пасля нашага аб'яднання толькі на паперы. Але не будзем ім у гэтым перашкаджаць. Як кажуць, "кожнаму - сваё".

**17 сакавіка 2005 г.**
**Чацвер**

З раніцы працую з ліцэістамі. Тлумачу ім гісторыю Беларусі па падручніку 10 класа. Спачатку адна група, потым - другая. Дзеці вельмі хочуць вучыцца, таму працаваць з імі лёгка і цікава. Галоўная мая задача, не толькі растлумачыць раздзел ці параграф падручніка, але і даць дзецям дадатковую інфармацыю па кожнай тэме.

Знаходжу на стале запрашэнне на прэзентацыю кнігі Аляксандра Лукашка "Прыгоды АРА ў Беларусі". Аляксандр Лукашук - вядомы беларускі журналіст і даследчык гісторыі Беларусі ХХ стагоддзя. У 2000 годзе здолеў патрапіць у архівы Гуверbegскага інстытута ў Каліфорніі. Інжынер Герберт Гувер - будучы прэзідэнт ЗША - у 1919 годзе стварыў дабрачынную арганізацыю "Амерыканская адміністрацыя дапамогі" - у скароце АРА - і распачаў дапамогу Польшчы. Яна доўжылася з 1919 да 1922 года і ахапіла, у тым ліку, жыхароў Заходняй Беларусі. Падчас голаду ў Расеі, Гувер пачаў з 1921 года дапамагаць яе жыхарам.

З 1922 года прадстаўніцтва АРА з'явілася ў Менску і БССР (тады 6 паветаў былой Менскай губерні), а таксама ў Віцебску і Гомелі, якія на той час уваходзілі ў склад РСФСР. Прадукты харчавання атрымлівалі як простыя людзі, дзеці, інваліды, так і прадстаўнікі беларускай эліты. Сярод іх - Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Уладзімір Пічэта і шмат іншых вядомых асоб. Доўгі час пра гэтую дапамогу і першыя амерыканска - беларускія кантакты амаль ніхто не ведаў, і Лукашук сваёй працай запоўніў чарговую белую пляму ў нашай гісторыі. Кніга яго, выдадзеная ў серыі "Бібліятэка Свабоды ХХІ стагоддзя", мае ўнікальныя ілюстрацыі з амерыканскіх і беларускіх архіваў. Яна лёгка чытаецца і напісана добрай мовай, мае напрыканцы "паказнік асобаў".

Асабліва мяне ўразіў аповед сына аднаго з амерыканцаў, які працаваў у складзе АРА ў Менску і ажаніўся з мясцовай беларускай. Ён паведаміў, што яго *"маці гаварыла папольску, па-расейску й яшчэ на нейкай мове"*. Мова гэтая, несумненна, была беларускай, а звалі жанчыну Ганна Пылюўская. І што цікава, побач з гэтым тэкстам Лукашук друкуе фотаздымак сп. Пылкоўскай, калі ёй было 22 гады. Таму на сустрэчу з аўтарам кнігі, нягледзячы на занятасць, збіраюся схадзіць.

Надвор'е сёння проста жахлівае. Амаль цэлы дзень ідзе дождж, які на вачах змывае гурбы снегу, і можна чакаць сапраўднай паводкі.

І вось я на вечарыне. Цікава, што прэзентацыя чарговай кнігі Лукашука супала з яго 50-гадовым юбілеем. Седзячы ў зале і слухаючы выступ свайго аднакурсніка, доктара гістарычных навук прафесара Уладзіміра Снапкоўскага, які гаварыў пра дзейнасць у Беларусі амерыканскай арганізацыі ЮНРА ў канцы саракавых гадоў ХХ ст., успамінаю пра вялікі белы мяшок з амерыканскім надпісам, які паказвала мне бабуля. Аказваецца, амерыканская дапамога трапіла і ў мой Мсціслаў і дапамагла выжыць маім блізкім, бабулі і маці. Як усё звязана ў гісторыі, якія незвычайныя сувязі могуць быць паміж людзьмі і народамі.





# Суполка "Пагоня" - сэрца Саюза мастакоў

Так акрэсліў важнасць дзейнасці творчага аб'яднання мастакоў Пётр Краўчанка.

1 красавіка ў Палацы Мастацтваў была разгорнута выстава да 30-годдзя суполкі " Пагоня" Саюза беларускіх мастакоў.

З прывітальнымі словамі да гасцей звярнуліся Аляксей Марачкін і Мікола Купава, а таксама старшыня суполкі "Пагоня" Юры Піскун. Сярод ганаровых гасцей выставы знаходзіліся старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны А.М. Анісім і старшыня партыі БНФ Рыгор Кастусёў.

Творчае аб'яднанне было створана на пачатку 1990 года, на XIII з'ездзе Саюза беларускіх мастакоў. За 30 гадоў суполкай здзейснена больш за сотню творчых імпрэз, выстаў і пленэраў, прысвечаных выбітным асобам гісторыі і культуры Беларусі: Язэпу Драздовічу, Фердынанду Рушчыцу, Рыгору Барадуліну, Васілю Быкаву, Уладзіміру Караткевічу і іншым.

Сумесныя выставы суполкі "Пагоня" ладзіліся ў Літве, Эстоніі, ЗША, Бельгіі, Расіі, Украіне, Чарнагорыі і іншых краінах.

У суполку ўваходзіць 86 аўтараў розных пакаленняў.

Сябрамі творчага аб'яднання былі вядомы жывапісцы і графікі Пётр Шарыпа, Яўген Шатохін, Яўген Кулік, Віктар Маркавец, Кастусь Харашэвіч і іншыя. Сёння іх памкненні працягвае малодшае пакаленне творцаў: Ігар Марачкін, Усевалад Свентахоўскі, Марыя Лось, Ганна Раманоўская і іншыя.

Юбілейная выстава прадстаўляе творчае крэда мастакоў - мастакоўскае служэнне ідэі вольнай незалежнай Беларусі, захапленне яе багатай культурнай спадчынай.

Адначасова з юбілейнай экспазіцыяй падрыхтавана выстава, прысвечаная 100-тым угодкам Слуцкага збройнага чыну.

Тут можна пабачыць партрэты дзеячаў Слуцкага збройнага чыну, выкананыя Алесем Цыркуновым, Рыгорам Таболічам, Юрыем Піскуном іншымі.

Віктар Варанкевіч прадставіў трыпціх "Тры шляхцянкі", пэндзлю Юрыя Піскуна належыць партрэт Вольгі Церашчатавай, стваральніцы этнаграфічнага музея, Наталля Піневіч выканала роспіс на дрэве "Анёлы-ахоўнікі".

*Эла Дзвінская, фота аўтара.*











# У тэхніцы акварэлі - пра пачуцці, уражанні і назіранні

1 красавіка пасля адкрыцця маштабнай выставы суполкі "Пагоня" "РАЗАМ" у сваю творчую прастору запрасіў гледачоў першы старшыня гэтага аб'яднання Аляксей Антонавіч Марачкін.

- Я ўзначальваў суполку, калі былі жывы і працавалі вядомыя мэтры і нацыянальныя дзеячы мастацтва Яўген Кулік, Уладзімір Сулкоўскі, Віктар Шматаў. Многія майстры пайшлі з жыцця і сочаць за намі з нябёсаў! Але ўсе мы працавалі дзеля таго, каб жыла наша Бацькаўшчына, шанавалася яе гісторыя і прыгажосць! - прамовіў мастак.

Выстава акварэляў і графікі "АкваАрэлі" Алеся Мары, прымеркавана да 81-ай гадавіны з дня народзінаў мастака. Алесь Мара - сябар Саюза мастакоў з 1977 года, у 1988 - 1997 гадах ён працаваў у Беларускай акадэміі мастацтваў, выкладаў, загадваў кафедрай жывапісу. Восенню адбывалася вялікая выстава жывапісных твораў А. Мары. А на гэты раз ён паказаў сваім гледачам графічныя працы, акварэлі, якія з'явіліся зусім нядаўна.

На адкрыццё выставы прыйшла шматлікая публіка, з прывітальнымі словамі выступіў зямляк Аляксея Антонавіча Марачкіна - Рыгор Кастусёў.









У экспазіцыі прадстаўлена розная тэматыка - ад успамінаў дзяцінства да сённяшняга дня. На думку мастака, акварэлі, гэта фарбы, пігменты, найбольш натуральны для мастака матэрыял, які сягае ў далёкае мінулае. Такая тэхніка выражае найбольш тонкія, пяшчотныя пачуцці і ўражанні.

Тут ёсць лірычныя "Кветкі вясны", прадстаўлены графічныя партрэты Я. Драздовіча і С. Манюшкі, ёсць і актуальна-сацыяльныя працы "Муры", "Вецер пераменаў", "Памяці Р. Бандарэнкі" на хвалюючыя тэмы. Вялікодныя разважанні прасочваюцца ў акварэлях "Збавіцель", "Вялікодныя яйкі" і іншых.

У суботу, яшчэ раз наведаўшы выставу, мы пераканаліся, што мастак атрымлівае вялікую асалоду ад працэса творцасці, спрабуе сябе ў самых розных тэхніках, назірае за жыццём і радуецца кантактаванню з гледачамі, магчымасці раcпавесці пра пленэры, дзе давялося працаваць, як напрыклад, у мястэчку Шчорсы, малюючы біблятэку Храбтовічаў.

*Э. Оліна, фота аўтара.*



# Выстава Алеся Цыркунова ў сядзібе ТБМ

Менская гарадская арганізацыя ТБМ годна адзначыла 103-ю гадавіну БНР. Напярэдадні Дня Волі 24 сакавіка ў сядзібе ТБМ была адкрыта мастацкая выстава, прысвечаная слаўнай даце. Арганізатарам выступіў мастак Алесь Цыркуноў, кіраўнік Партызанскай раённай арганізацыі ТБМ. Выстава атрымала назву "Людзі з планеты "25 САКАВІКА". Нашы сучаснікі."





Адкрыла выставу старшыня ТБМ Алена Анісім, якая нагадала ўсім пра самае важнае нацыянальнае свята - Дзень Волі і адзначыла, што самае галоўнае для беларусаў - пашырэнне ўжывання беларускай мовы. Затым слова меў Алесь Цыркуноў, які распавёў пра сваю задуму выставы, пра гісторыю стварэння асобных карцін.



Сярод партрэтаў, якія можна пабачыць на выставе, - Барыс Кіт, Леанід Лыч, Мая Яніцкая і шмат іншых знакавых асоб.

Некаторыя з карцін ужо выстаўляліся ў нашай сядзібе. Але ў такой кольксці і ў такой падборцы гэта зроблена ўпершыню.

На выставе прагучала шмат добрых і цёплых слоў у адрас Алеся Цыркунова.

Выстава яшчэ экспануецца ў сядзібе, і яе можна наведаць.

*Наш кар.*

*Навіны Германії*

# Кіраўнік МЗС Германіі заявіў аб рызыцы грамадзянскай вайны ў М'янме



Пасля путчу ў М'янме ваенная хунта прывяла краіну на мяжу катастрофы, папярэдзіў Хайка Мас. Міністр заклікаў усе зацікаўленыя бакі аказаць ціск на путчыстаў.

Міністр замежных спраў ФРГ Хайка Мас папярэдзіў пра небяспеку грамадзянскай вайны ў М'янме. "Ніхто ў рэгіёне не можа быць зацікаўлены ў тым, каб М'янма пагрузілася ў грамадзянскую вайну, у тым ліку тыя, каму няма справы да выратавання дэмакратыі", - адзначыў ён у інтэрв'ю выданням групы Funke, апублікаваным у нядзелю, 4 красавіка.

Кіраўнік МЗС ФРГ раскрытыкаваў дзеянні ваеннай хунты ў М'янме. "За некалькі тыдняў ваенныя прывялі М'янму на мяжу катастрофы. Больш за 500 чалавек забітыя, тысячы знаходзяцца ва ўцёках", - канстатаваў Мас. Міністр заклікаў усе зацікаўленыя бакі аказаць ціск на путчыстаў, каб яны пагадзіліся на перамовы ў рамках Асацыяцыі дзяржаў Паўднёва-Усходняй Азіі (АСЕАН).

Вайскоўцы захапілі ўладу ў М'янме ў ноч на 1 лютага, абвясціўшы аб увядзенні надзвычайнага становішча тэрмінам на адзін год. Уплывовыя прадстаўнікі ўзброеных сілаў незадоўга да путчу заявілі аб фальсіфікацыі вынікаў парламенцкіх выбараў у лістападзе 2020 года. Лідар Нацыянальнай лігі за дэмакратыю і лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Аўн Сан Су Чжы, якая перамагла на выбарах, і шэраг іншых палітыкаў былі арыштаваны.

З таго часу ў рэспубліцы не спыняюцца масавыя пратэсты супраць путчыстаў, якія жорстка душацца. 1 красавіка Савет бяспекі ААН асудзіў гвалт у дачыненні да мірных дэманстрантаў у М'янме. Паводле апошніх звестак, у ходзе задушэння пратэстаў супраць путчу ў краіне забіта як найменш 550 чалавек, з якіх 46 - дзеці.

*dw.com.*

*"Новы час".*

# Паседжанне Кастрычніцкай Рады ТБМ





26 сакавіка ў сядзібе ТБМ адбылося ўрачыстае паседжанне Кастрычніцкай Рады ТБМ, прысвечанае 103-й гадавіне БНР.

Уступнае слова сказала старшыня ТБМ Алена Анісім, якая нагадала ўсім пра ролю і значэнне абвяшчэння БНР. Гасцямі ўрачыстага паседжання былі паэт Уладзімір Някляеў і Зінаіда Бандарэнка. У іх выкананні прагучалі цудоўныя вершы, прысвечаныя нашай гісторыі, слаўнай даце і нашаму гістарычнаму нацыянальнаму сцягу.

Свята дапоўнілі выступы музыкаў. Аляксей Галіч выканаў некалькі традыцыйных беларускіх песень, якія падхапілі ўсе прысутныя. Надзвычай шчымліва ў яго выкананні прагучала Ave Marya. Наш вядомы палітык Павел Знавец таксама зайграў на гітары і парадаваў прысутных сваімі спевамі.

Паседжанне Кастрычніцкай Рады атрымалася вельмі змястоўным, цёплым і запамінальным.

*Наш кар.*




## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Бойса Іосіф - 30,00 р.
2. Ралько Леанід - 30,00 р.
3. Качаноўская Наталля - 20,00 р.
4. Кукавенка Іван - 15,00 р.
5. Жыдаль Дзяніс - 100,00 р.
6. Чыгір Яўген - 10,00 р.
7. Панасюк А.П. - 50,00 р.
8. Малаковіч Н.Я. - 30,00 р.
9. Кручкоў Сяргей - 50,00 р.
10. Міцкевіч Вольга - 20,00 р.
11. Філіповіч Тамара - 40,00 р.
12. Буднік І.Ф. - 30,00 р.
13. Шкут Яўген - 5,00 р.
14. Бубен Кастусь - 15,00 р.
15. Забалотны - 50,00 р.
16. Птушка С.І. - 5,00 р.
17. Невядомы - 100,00 р.
18. Баранаў І.А. - 3,00 р.

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанка" IBAN - BLBBBY2X (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

**Як аплаціць праз МТБ - банк?**

МТБ-банк => Аплата паслуг => Іншыя аплаты => Вольны плацёж => Працягнуць => Выбраць картку МТБ для аплаты => Увесці прозвішча => Працягнуць => БІК банка атрымальніка: BLBBBY2X => Працягнуць => Рахунак: BY84BLBB30150100129705001001 => ПІ Іпб/ Найменне атрымальніка: ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" => УНП атрымальніка: 100129705 => Прызначэнне плацяжу: Складкі ці Ахвяраванні => Працягнуць => Працягнуць => З карты - выбіраем сваю карту => Набіраем суму => Аплата.

**Аплата праз асабісты кабінет**

Плацяжы => Вольны плацёж.

Атрымальнік: ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны".

Рахунак атрымальніка: BY84BLBB30150100129705001001.

BIC банка - атрымальніка: BLBBBY2X.

УНП: 100129705.

ПІпб адпраўшчыка: ...

Адрас: ...

Код плацяжу - прапускаем.

Прызначэнне плацяжу: Складкі (за перыяд студзень-сакавік 2021 г.).

За перыяд: Выбіраем месяц, у якім робім пералічэнні.

Сума: 20,00.

Далей: Аплаціць.



№ 14 (1529) 7 КРАСАВІКА 2021 г.

Наша Слова

*"Санта-Барбара" зноў у сэрцах беларусаў; цяпер гэта "серыял" "Плэйсервіль"*

*У раздзеле II (гл. "НС" № 13) паказвалася, якімі доктар Русель убачыў Сан-Францыска на адлегласці і яго ваколіцы, калі выехаў у графства Эль-Дарада, дзе мы пачалі назіраць за мясцовым жыццём, нібы ў новым серыяле "Санта-Барбара". У раздзеле IV расказваецца пра наведванне Сакрамента, каліфарнійскіх кітайцаў і яўрэяў.*

*У раздзеле ж III - адзінае месца ў "Па Каліфорніі", дзе Русель згадвае пра рускіх у Сан-Францыска як "кампактную" супольнасць. Нагадаем чытачу, што жыхарамі Сан-Францыска з беларускімі каранямі былі ў 1891 годзе, акрамя доктара Руселя, яго жонка-гінеколаг Леакадзія (з Шабекаў), яго брат Эміль Судзілоўскі, консул Уладзімір Арцімовіч, якога Русель убачыў ужо пасля вяртання са свайго адпачынку, і сваяк Уладзіміра Караткевіча Мікалай Грынкевіч, які ў пачатку года стаў святаром. Вучня апошняга ў царкоўнай школе, Мікалая Саўчанку, кадзьякца, сына тлінкіткі, называе сваім сынам сын беларуса - супрацоўніка Расійска-амерыканскай кампаніі са Смаленшчыны, ураджэнец Курылаў Дзям'ян Саўчанка.*

*Сан-францыскім беларусам (калі не ўкраінцам) мог быць Іван Кавалёў - прозвішча не рускае. Яго жахлівая гісторыя, на памяці ўжо толькі Грынкевіча і Арцімовіча, была пазней, але ў нашым кантэксце Кавалёў цікавы тым, што ён "праславіўся" ў сувязі з Сакрамента. Ён нібыта ўцёк са зняволення на Сахаліне (куды трапіў за забойства "вялікай рускай сям'і"), у Сан-Францыска быў прыняты і падтрыманы як пацярпелы ад цара, але потым яго судзілі за забойства ў Сакрамента ўладальніка сціплага прадуктовага магазіна Уэбера і яго жонкі з мэтай абрабавання (пазней забіў і свайго саўдзельніка; павешаны ў Фолсаме, які Русель згадвае ў сваім травялогу, у 1896 годзе).*

*Карл Сіверс, верагодна, "рускі немец", спадарожнік Руселя, прынамсі ў час іх жыцця ў лясной зямлянцы, набыў гомстэд (участак зямлі ў 160 акраў) каля Плэйсервіля, пра што ў пэўны момант пачаў марыць доктар.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-амерыканскіх сувязей.*

*Мікалай Русель*

# Па Каліфорніі - III

## *Пераклад з рускай мовы Алеся Сімакова*

Шлях да Сакрамента, адміністрацыйнай сталіцы штата, ідзе ўздоўж усходняга берага велізарнай бухты і ў адным месцы нават перасякае адзін з яе шматлікіх заліваў. У гэтым месцы цягнік узбіраецца на параход і на ім пераплывае затоку. Навакольная мясцовасць мала цікавая. Дарога цягнецца нізкай, але шырокай раўнінай, па абодвух баках якой віднеюцца горныя ланцугі. Злева і бліжэй за бухтай - берагавы ланцуг, з прычыны нязначнай адлегласці, здаецца вышэйшым і больш маляўнічым. Справа - С'ера-Нявада ледзь віднеецца ў сінявым тумане. Цягнік коціцца то па салёных балотах і нізінах, зарослых так званым каліфорнскім дубам, які тут называюць чорным дубам. На наш дуб ён зусім не падобны ні па знешнім выглядзе, ні па форме лісця. Гэта вельмі нязграбнае, даволі непрыгожае, дзякуючы свайму няправільнаму росту, шышкаватасці і сухаватасці, дрэва хутчэй нагадвае старыя алешыны і вербы як па агульнай форме, так і па выглядзе лісця, з той розніцай, што яно даволі цвёрдае і таму дае добрае паліва, хаця і не прыдатнае ні на што іншае. У многіх месцах вялізныя прасторы ўсланы каліфорнскім макам (Escholtia), невялікая травяністая расліна з вельмі прыгожай жоўта-аранжавай кветкай, якая падобная па форме на наш звычайны мак і культывуецца ў Еўропе ў садах. Тут яе айчына, і яна карыстаецца сваім правам грамадзянства ў Залатым штаце не саромеючыся, запаўняючы цэлыя лугі і надаючы ім вельмі арыгінальны, асляпляльна-залаты колер. Часам чыгуначны пуць адхіляецца ад бухты і доўга-доўга бяжыць па бясконцых раўнінах, занятых велізарнымі правільна разлінеенымі вінаграднікамі, персікавымі і іншымі фруктовымі плантацыямі. Садаводства і вінаробства ў цяперашні час уяўляюць галоўныя артыкулы вытворчасці Каліфорніі, таму што большая частка залатых руднікоў ужо вычарпана. І тое, і другое вядзецца ў буйных памерах на вялікія капіталы і з самым шырокім скарыстаннем пары і машын. Толькі пры гэтых умовах яно аказваецца настолькі выгадным, што дае магчымасць выплачваць скандальныя правазныя тарыфы чыгуначным манапалістам пры збыце ва ўсходнія штаты. Значная частка фруктаў пакідае Каліфорнію не ў сырым выглядзе, а ў бляшанках у выглядзе кансерваў. Частка вінаграду перапрацоўваецца ў разынкі, але большая частка перапрацоўваецца ў віно і каньяк. Усе гэтыя галіны прамысловасці, таксама як большасць вытворчасці ў Штатах, ужо манапалізаваны некалькімі багатымі кампаніямі, і дробныя садаводы-фермеры, колькасць якіх з кожным годам памяншаецца, адыгрываюць даволі мізэрную ролю. У Сан-Францыска ёсць 2-3 вялікія заводы, занятыя перапрацоўкай фруктаў у кансервы, і ад цэн, якія яны палічаць патрэбным прызначыць, цэн, прыстасаваных да "жалезнага закону", залежыць лёс дробнага садавода. Па сутнасці гэта не болей чым "вольны батрак" пазямельных, банкавых, прамысловых і чыгуначных кампаній.

3 лініі злучаюць цяпер Атлантычны акіян з Вялікім: Паўночная, Цэнтральная і Паўднёвая. Чацвёртая лінія - Канадская, перасякае мацярык па-за Злучанымі Штатамі па англа-канадскіх уладаннях. Акрамя гэтых 4 ліній, ёсць рэгулярныя параходныя зносіны праз Панамскі перашыек з перагрузкай на Панамскай чыгунцы, а таксама ветразьныя вакол Паўднёвай Амерыкі. Цэнтральная і Паўночная чыгуначныя лініі пабудаваны прыватнай кампаніяй на грошы федэральнага ўрада, з умовай пагашэння капіталу і працэнтаў у пэўныя тэрміны. Акрамя таго, кампанія была ўзнагароджана тым, што атрымала велізарныя ўчасткі дзяржаўнай зямлі па абодвух баках уздоўж усёй лініі (каля 40 вёрстаў). Ні капітал, ні працэнты, належныя ўраду, заплачаны не былі, пад маркай благіх абаротаў; кампанія наогул вунь была бедная і ледзь зводзіла канцы з канцамі, што не перашкодзіла дырэктарам і акцыянерам нажываць мільёны. На гэтыя мільёны, г. зн. быццам бы ўжо на свае ўласныя грошы, Стэнфард, які стаіць на чале прадпрыемства (той самы Стэнфард, які, каб некалькі прымірыць грамадскую думку, нядаўна арганізаваў каля Сан-Францыска ўніверсітэт) з некалькімі кампаньёнамі між тым правёў новую лінію, канкурэнтную, т. зв. Паўднёвую Вялікаакіянскую. Зараз справа выглядае так! Ураду за нявыплату доўгу ў $70,000,000 хутка трэба будзе канфіскаваць Цэнтральную дарогу, пабудаваную на яго грошы. А Стэнфард і К° і не шманаюць. "Канфіскуйце, - маўляў, - у нас ёсць цяпер свая ўласная лінія". Але пакуль справа дойдзе да канфіскацыі, практычна ўсе 3 лініі, Паўночная, Цэнтральная і Паўднёвая, знаходзяцца ў руках адной кампаніі. Гэтая кампанія выплачвае Канадскай англійскай чыгунцы, а таксама абедзвюм параходным кампаніям штогод значныя сумы з умовай не прымаць грузаў у Каліфорнію ніжэй за яе кампанейскі тарыф. Такім чынам, увесь штат, або, лепш сказаць, усё Вяліка-Акіянскае ўзбярэжжа, г. зн. Вашынгтон, Арэгон і Каліфорнія ў сваіх зносінах з Усходам Амерыкі знаходзяцца ў поўнай залежнасці ад адной кампаніі, якая, вядома, карыстаецца гэтым не саромеючыся, г. зн. абкладаючы тавары і пасажыраў да maximum'у, які яны могуць вынесці. Каб хоць колькі-небудзь вызваліцца з гэтых вожыкавых рукавіц, некаторыя гандлёвыя фірмы лічаць за лепшае адпраўляць свае тавары паміж Каліфорніяй і Нью-Ёркам праз Англію, знаходзячы гэта выгадным!

На шляху ў Сакрамента размешчана, між іншым, адна з самым буйных і ўзорных вінаградных гаспадарак, т. зв. Ingle-nook (куток ля каміна), абстаўленая ўсялякай раскошай дачная рэзідэнцыя амерыканскага мільянера, якая ацэньваецца ў мільён долараў і належыць пану Густаву Нібаўму, фінляндскаму ўраджэнцу, віцэ-прэзідэнту былой Аляскінскай коцікавай кампаніі, які яшчэ нядаўна выконваў абавязкі рускага консула.

Праязджаючы па гэтых бясконцых садах і вінаградніках, здзіўляешся параўнальнай мізэрнасці населеных пунктаў. На ўсёй прасторы 5-гадзіннага чыгуначнага шляху (каля 200 вёрстаў) акрамя Benicia, размешчанага каля берага бухты невялікага паселішча, якое згрупавалася каля прыстані ваенных параходаў, яшчэ ніякіх іншых "паселішчаў" няма. Міжволі прыгадаеш тут Швейцарыю, дзе любая ўрадлівая даліна ўяўляе сабой амаль скрозь горад. Пры каліфорнскім клімаце і надзвычайнай урадлівасці глебы можна б чакаць большага, асабліва паблізу ад такога мнагалюднага цэнтра, як Сан-Францыска, і на шляху да другога (трэцяга на насельніцтву) адміністрацыйнага цэнтра Сакрамента. Такіх жа далін, як каліфорнская, па ўрадлівасці і клімаце няшмат на свеце, а між тым у сапраўднасці яна з'яўляецца, хаця і культываванай, але ўсё ж пустыняй. Год таму назад мне здарылася праехаць у экіпажы, не спыняючыся, 8 гадзін па другім, заходнім беразе бухты, і на ўсёй гэтай велізарнай прасторы багатай урадлівай зямлі, старанна агароджанай на працягу 30-40 вёрстаў частаколам, я літаральна не сустрэў нічога і нікога, акрамя самотнага заезнага дома і рыбацкай партугальскай хаціны, што прытулілася каля берага мора. Праязджаючы чыгункай па ўсёй Паўднёвай Каліфорніі да Сан-Францыска, і там я не мог зразумець, дзе тояцца жыхары Залатога штата, бачачы вакол сябе ўжо сапраўдную, падобную да Сахары, пустыню з рэдкімі маленькімі аазісамі.

Па наведзеных мною даведках, усе 30 вёрстаў згаданай акуратна агароджанай парожняй зямлі каля самога Сан-Францыска па заходнім баку бухты належыць Каліфорнскаму банку. Калі я спытаў у гаспадара лагера, амерыканца, пачым просіць банк за гэтую зямлю, ён мяне агарошыў адказам: $1000 за акр! Гэта складае 6000 рублёў за дзесяціну, не дзіўна, што яна стаіць незанятай. Відавочна, банк прыхоўвае яе для будучых спекуляцый.

Не без цікавасці з гэтай нагоды параўнаць некалькі лічбаў. Рэспубліка Гватэмала пры тэрыторыі ў 3 разы меншай пракормлівае тое ж насельніцтва, што і Каліфорнія, г. зн. 1 1/2 мільёна. Цікава, што цэлая чвэрць усяго насельніцтва гэтага земляробчага штата цэнтралізуецца ў г. Сан-Францыска з прадмесцямі. А між тым Гватэмала ж - параўнальна дзікая і бедная краіна з першабытным ды яшчэ лянівым насельніцтвам! Наша Бесарабія пры тэрыторыі ў 9 раз меншай пракормлівае тыя ж 1 1/2 мільёна насельніцтва. Насельніцтва Екацярынаслаўскай губерні ў 6 раз, а Ковенскай у 10 раз перасягае па гушчыні Каліфорнію. Ужо на што Табольская губерня і тая толькі ў 4 разы саступае па шчыльнасці Залатому штату.

Усе гэтыя шматзначныя факты, і тлумачацца яны ні чым іншым, як манапалізацыяй пазямельнай уласнасці буйнымі капіталістамі і пазямельнай спекуляцыяй, што набыла скандальныя памеры.

Большасць каліфорнскіх капіталістаў нажыла свае мільёны не на золаце, як гэта ўвогуле заведзена думаць, а менавіта на спекуляцыі зямлёй. І механіка тая па сутнасці не хітрая. Яшчэ нядаўна мы мелі тут два буйныя прыклады, якія паказваюць, як гэта робіцца. Адзін быў у Los Angeles, на поўдні Каліфорніі, другі ў Seattle, у штаце Вашынгтон, на поўначы. Буйныя кампаніі праўдай і няпраўдай (напрыклад, скупляючы прызначаныя для пасяленцаў дзяржаўныя землі па $1 1/4 за акр праз падстаўных агентаў) накладаюць свае рукі на вялікія ўчасткі зямлі. Калі права ўласнасці страчана, наладжваецца так званы boom, г. зн. шум на ўвесь свет, самая бессаромная і беспардонная рэклама ва ўсіх формах і відах. На яе выдаткоўваюцца велізарныя грошы. Падкупляецца прэса, эміграцыйныя агенты рассылаюцца па ўсім свеце шукаць дурняў. Абвяшчаецца, што дадзеная мясцовасць ёсць рай зямны, што там і залатыя прыіскі, і каменнавугальныя капальні, і лес, і клімат, як нідзе ў свеце, адным словам - прыязджай толькі і зробішся мільянерам. І, на жаль, як заўсёды гэтая бессаромная рэклама суправаджаецца бліскучым поспехам. Колькасць легкаверных на свеце, насуперак Дарвіну, відаць не памяншаецца. Яны едуць з усіх краін свету і раскупляюць зямлю, нягледзячы на нечуваныя цэны. Потым, вядома, настае натуральная рэакцыя, сотні і тысячы разараюцца, многія губляюць апошнія капейкі, назапашаныя працай і зберажэннямі цэлага жыцця. Большасць іх або вяртаецца назад на Усход і ў Еўропу або пераходзіць у разрад пралетарыяў і з'яўляецца да тых жа кампаній з прапановай рук сваіх на і без таго перапоўненым рабочым рынку. Такім чынам драпежнікі капіталістычнага феадалізму адразу забіваюць двух зайцаў: з аднаго боку, палягчаюць кішэні эмігранта, а з другога, зніжаюць рабочую плату. Я не думаю, каб дзе-небудзь у іншым пункце статыстыка самазабойстваў і вар'яцтва сярод іншаземцаў была такая жахлівая, як у Сан-Францыска, у гэтым цэнтры, куды перш за ўсе сыходзіцца ўжо абдураны амерыканцам нядаўні заможны эмігрант, цяпер амерыканскі пралетарый. У Каліфорніі на 300 здаровых прыпадае 1 вар'ят, які ўтрымліваецца ў доме вар'ятаў. Калі прыняць пад увагу іншых, якія не трапляюць у гэтыя дамы, то прапорцыя, вядома, выйдзе яшчэ больш неспрыяльная. У Нью-Ёрку, іншым штаце, перапоўненым іншаземцамі, прыходзіцца 1 на 350. Увогуле, у заходніх, багатых на іншаземцаў штатах прыходзіцца 1:400-1:600. У той час як у некаторых паўднёвых штатах 1:1000. Колькасць іншаземцаў у Каліфорніі складае 1/3 усяго насельніцтва і гэта трэць дае 2/3 усіх зvар'яцелых, якія ўтрымліваюцца ў дамах вар'ятаў.

Насельніцтва штата павялічваецца вельмі марудна, нягледзячы на пастаянную эміграцыю з усходніх штатаў і Еўропы. Кожны дзень з Сан-Францыска прыбывае па 1-2 цягнікі, перапоўненыя эмігрантамі, і так круглы год. У вясеннія і летнія месяцы, вядома, яшчэ больш. Але паралельна з гэтым існуе амаль аднолькавы рух з штата, што і тлумачыць малы прырост. Работу знайсці вельмі, вельмі цяжка нават сапраўднаму рабочаму, які прызвычаіўся да фізічнай працы з маленства і забяспечанаму тым ці іншым добрым рамяством. Работа нясталая, капрызная, таму палову года прыходзіцца прагульваць, і выходзіць, што праславутая добрая заработная плата ў 1-2 долары ў дзень па сутнасці зводзіцца да тых жа еўрапейскіх цэн, асабліва калі прыняць пад увагу дарагоўлю жыцця. Што тычыцца інтэлігентных заняткаў, то знайсці іх зусім немагчыма. Каліфорнскія капіталісты адчуваюць шчырую агіду да ўсякага роду навуковых і тэарэтычных ведаў, а там, дзе без гэтакіх абысціся нельга, яны аддаюць перавагу або практыкам - якія засвоілі сабе руціну справы, або берагуць такія спасады, як сінекуры для сваіх сваякоў. Адносна прафесійнай адвакацкай, медыцынскай і да т. п. працы можна сказаць, што яе ў Каліфорніі няма. Тутэйшыя адвакаты і ўрачы - простыя раменнікі з уласцівымі рамеснаму і гандлёваму саслоўю ўяўленнямі, узроўнем адукацыі і маральнасці. Адвакатам і ўрачом можа зрабіцца на працягу 3-18 месяцаў кожны, хто ведае хоць крыху чытаць і пісаць. Таму канкурэнцыя страшная і настолькі нядобрасумленная, што пра прыстасаванне не можа быць і гаворкі для чалавека з еўрапейскімі прафесійнымі ўяўленнямі. Сан-Францыска ёсць адзіны горад ў Амерыцы, які мае рускую калонію, хаця і невялікую. Гэта прыцягвае ў Каліфорнію нямала рускіх, што раскіданы адзінкамі па розных штатах і больш або менш сумуюць па радзіме. Няхай гэта некалькі доўгае адступленне паслужыць ім перасцярогай і хоць слабым супрацьяддзем "усясветнаму шуму", які робіцца ў меркантыльных перспектывах нажывы панамі амерыканцамі, шуму, які дасягае і Расіі і ўводзіць у спакусу тых, каму не асабліва салодка жывецца на радзіме. Хвалёныя бубны за гарамі!..


N. RUSSEL M. D.

San Francisco 1891

*Кнігарня*

## Разнастайная "…Кропка" Алеся Клышкі





У менскім выдавецтве "Смэлтак" выйшла з друку кніга сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Алеся Клышкі "…Кропка".

Гэта не проста кніга, а кніга-летапіс, кніга-вынік шматгадовай творчай працы пісьменніка, навукоўца, былога спартсмена-футбаліста, кандыдата тэхнічных навук Алеся Клышкі. Унікальнае выданне дае шматграннае ўяўленне пра гістарычную эпоху, якая ахоплівае больш за 100 гадоў, праз прызму лёсаў асобных сваякоў вялікай сям'і і асабіста аўтара.

Знакамітыя асобы, значныя падзеі недалёкай мінуўшчыны і сучаснасці ў дыялогах, успамінах, публікацыях мас-медыя, навуковых даследаваннях, паэтычных віншаваннях, асобныя новыя творы дазволяць чытачам адчуць подых гістарычных падзей, звязаных з малой радзімай Алеся Клышкі - горадам Менскам, рытм і супярэчнасці сучаснай рэчаіснасці.

Кніга "Кропка" распачынаецца паэмай "Мінская зямля", якая аздоблена шматлікімі рэдкімі фотаздымкамі Менска ХХ стагоддзя. Пра Менск у нас напісана шмат твораў, але Алесь Клышка зрабіў гэта паіншаму, па-свойму арыгінальна і шчыра. "Мінская зямля" - гэта маленькі гімн Менску, менскай зямлі і менчукам. Гэта паэмароздум аб сваёй сям'і, аб людзях, якія жылі побач, гэта паэма-памяць, паэма-сумленне і паэма-настальгія.

Бацька Алеся Клышка - кадравы афіцэр Аляксандр Клышка, прайшоў усю вайну на пасадзе намесніка камандзіра танкавага батальёна, быў узнагароджаны за ўдзел у баях па абароне Масквы, вызваленні Вены і Будапешта, кавалер двух ордэнаў Чырвонай Зоркі. Маці працавала адказным рэдактарам Беларускага радыёкамітэта, у дзявоцтве Анастасія Голубева - дачка ўдзельніка трох рэвалюцый і грамадзянскай вайны ў Расіі, ссыльнага, рабочага чыгуначнага дэпо і станкабудаўнічага завода ў Менску, першага ў Беларусі Героя Сацыялістычнай Працы Іосіфа Голубева. Ягоным імем названа адна з менскіх вуліц.

У лістападзе 1956 года часопіс "Беларусь" пісаў: "Станкабудаўнічы завод імя Варашылава за кароткі тэрмін быў адноўлены. Ужо ў 1948 годзе майстар мадэльнага цэха Іосіф Пятровіч Голубеў зрабіў першую мадэль прадольнастругальнага станка, а ў 1949 годзе завод пачаў іх серыйны выпуск…".

Старэйшая сястра Ірына, як згадвае ў кнізе Алесь Клышка, аднойчы з лепшымі вучнямі школы і настаўнікамі паехала віншаваць Якуба Коласа з днём нараджэння. Ірына Клышка праспявала песню на словы Якуба Коласа: "Вясна, вясна, жаданая, ты прыйдзеш зноў, ты вернешся…". Ад замілавання Якуб Колас прыцiснуў Ірыну да сябе і шчыра падзякаваў. А потым яны сфатаграфаваліся на памяць.

Сам аўтар кнігі Алесь Клышка нарадзіўся ў Менску ў 1948 годзе. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Абараніў кандыдацкую дысертацыю. Мае 13 патэнтаў на вынаходніцтва ў галіне экалагічна чыстых тэхналогій і аховы навакольнага асяроддзя, аўтар 113 навуковых публікацый.

А яшчэ Алесь Клышка - вядомы ў мінулым футбаліст. Ён гуляў за менскую каманду "Тарпеда", быў нават капітанам каманды. У "Тарпеда" Алесю Клышку пашчасціла пагуляць з "зоркамі" беларускага футболу: Мікалаем Журавенкам, Дзмітрыем Карнеевым, Анатолем Глебам, Мікалаем Іваніцкім… *"Згадваю, як у 1975-м годзе на тарпедаўскім стадыёне ў Мінску праходзілі гульні Кубка Прыбалтыкі. Беларускую зборную трэніраваў Эдуард Малафееў, настаўнік мінскага "Дынама". І прызначыў мяне капітанам. Уяўляеце, якое было хваляванне! Як цяпер памятаю: поўны стадыён, у апошняй гульні разгромілі 5:0 Эстонію, і заўзятары скандзіравалі: "Эдзік, бяры Клышку ў каманду!"*, - успамінае Алесь Аляксандравіч.

Вось такі ён, аўтар кнігі "…Кропка". Але самае галоўнае, што Алесь Клышка - паэт-лірык, публіцыст, цікавы суразмоўца. У суаўтарстве з паэтам Зьнічом (Алегам Бембелем, інакам Мікалаем) з Жыровіч ён выдаў чатыры кнігі роздумаў-дыялогаў: пра час, Айчыну, шляхі зямныя і вечныя ("Жыровіцкія камяні" (2006), "Шлях да Жыровічаў" (2007), "Жыровіцкая пастараль" (2009) і "Званіца" (2016)). Калі ў першых дзвюх кнігах аўтары сумоўя разважалі больш пра беларускія праблемы: стан роднай мовы, лёс Беларусі ў ХХІ стагоддзі, месца Беларусі ў духоўнай прасторы планеты, духоўнае адраджэнне Бацькаўшчыны, то потым іх тэмы сумоўя пайшлі далёка за межы Радзімы. Гэта і палітыка, і сусветныя катаклізмы, і ўзаемаадносіны розных канфесій, рэлігійных дзеячаў і вучоных, дзяцей і бацькоў, а таксама лёс простага люду. З многімі разважаннямі можна пагадзіцца, а з некаторымі іх суб'ектыўнымі думкамі - не. Але радуе тое, што дыяпазон іх разважанняў вялікі, дзе скразной лініяй праз усё сумоўе праходзяць духоўныя і агульначалавечыя каштоўнасці.

Першая іх сумесная кніга выспела яшчэ ў Жыровічах на Слонімшчыне. Выспела каля старых муроў Успенскага сабора, Богаяўленскай царквы, Крыжаўздвіжанскай і Георгіеўскай. А потым з Жыровіч шлях іх сумоўя пралёг па ўсёй Бацькаўшчыне і нават па-за яе межамі. Пра гэта таксама прачытаюць чытачы ў новай кнізе Алеся Клышкі.

Алесь Клышка яшчэ напісаў і выдаў шмат паэтычных зборнікаў, сярод якіх - "Ад каранёў да кроны", "Далёкае - блізкае", "Сямейная чытанка", "Сустрэча" і іншыя. Ён падрыхтаваў і выпусціў фільм па гісторыі Менска "Мінская зямля", а таксама шэраг аўдыёкніжак і музычных стужак.

У "…Кропцы" адзін з раздзелаў цалкам паэтычны. У ім надрукаваны вершы, прысвечаныя сябрам, якіх ужо няма і тым, хто жыве і працуе ў розных кутках Беларусі. Цікава чытаюцца вершы, прысвечаныя Рыгору Барадуліну, Генадзю Бураўкіну, Анатолю Сысу, родным і блізкім людзям.

Да ўсяго сказанага пра кнігу Алеся Клышкі "…Кропка" хочацца дадаць, што кніга багата ілюстравана архіўнымі і рэдкімі фотаздымкамі, якія ў кнізе публікуюцца ўпершыню.

*Сяргей ЧЫГРЫН.*

# Юбілей Часлава Янкоўскага

2 кастрычніка [1926 г.] віленскае грамадства ўрачыста адсвяткавала юбілей паўвекавой працы Часлава Янкоўскага на літаратурнай ніве.

Хаця толькі частку свайго жыцця Янкоўскі правёў у Вільні і ў нашым краі, а пераважна большую частку - у Варшаве, Пецярбургу ці за мяжой, але ён ніколі не трaціў кантакту са сваёй "малой радзімай" і заставаўся яе верным сынам, нават калі жыў за мяжой. Заўсёды служыў ёй пяром і заўсёды, як толькі гэта станавілася магчымым, спяшаўся вярнуцца дахаты.

Паходзіў ён з сям'і землеўладальнікаў Ашмянскага павета, якая жыла тут з даўніх часоў, і сам з'яўляўся ўладальнікаў вялікай дзедзічнай зямельнай маёмасці. Але не пайшоў пратораной шляхецкай дарогай: не асеў на зямлі, не шукаў грашовай пасады ў глыбіні Расіі. Яго душа жадала ведаў і жыцця ў мастацтве. Паехаў у вялікі свет, усмоктваючы ўсё, што магло даць яму інтэлектуальнае жыццё. Яго цікавілі гісторыя і літаратура, жывапіс і тэатр, музыка і палітыка. Мог смела пра сябе сказаць, што "nil humanum, a me alienum puto" (лац., "я чалавек, і ўсе чалавечае мне не чужое" - *Л. Л.*) Ён адбыўся як рэдкі ў нашых краях энцыклапедыст, што дазволіла яму стаць адным з лепшых журналістаў. Што праўда, у гэтым яму вельмі дапамагаў выбітны талент пісьменніка і віртуознае валоданне пяром.

У маладосці Янкоўскі пачаў служыць Апалону і выдаў некалькі зборнікаў паэзіі, але паэтычная творчасць яго не задавальняла. Цягнула бурная, гарачая і litзнабаковая праца журналіста, і менавіта ёй Янкоўскі і прысвяціў сябе. Ён пісаў незлічоныя кваліфікацыйныя фельетоны, літаратурную крытыку, тэатральныя рэцэнзіі, быў карэспандэнтам шэрагу выданняў, такіх як "Кур'ер Варшаўскі", "Тыгоднік Ілюстраваны", "Край" і іншых.

Ні тэмперамент, ні род заняткаў не дазвалялі яму застацца жыць на зямлі ці па прыкладзе Ажэшкі ў глухой і правінцыяльнай у той час Вільні. Але заўсёды ён памятаў пра родны край і часта прыязджаў сюды, доказам стаўлення яго да бацькоўскага краю была авеяная шчырым і глыбокім сантыментам і глыбокім веданнем гісторы чатырохтомная манаграфія аб Ашмянскім павеце.

Нарэшце, прыйшоў момант, калі Янкоўскі змог аддаць свае здольнасці, сваю дасведчанасць і свой запал для працы на карысць грамадства таго краю, з якім яго лучыла паходжанне і не страчанае ў далёкіх вандроўках пачуццё. Як толькі ў Вільні стала магчымай публіцыстычная дзейнасць, спадар Часлаў паспяшаўся на берагі Віліі і пачаў рэдагаваць "Кур'ер Літоўскі". Ён марыў пра газету еўрапейскага гатунку і прагнуў такім чынам аднавіць бляск старажытнай сталіцы Літвы.

Пад яго кіраўніцтвам "Кур'ер Літоўскі" стаў сапраўднай з'явай у нашай журналістыцы. Газета заўсёды трымала высокі культурны узровень, друкавала лепшых і выдатна інфармаваных аўтараў, але пры тым не страціла свайго індывідуальнага характару. Яна ўсебакова асвячала краёвае жыццё і перад усім служыла яго інтарэсам. Газета займала памяркоўную і нават кансерватыўную, але далёкую ад рэтраградства пазіцыю, якая з-за цэнзуры, магла быць не надта выразнай, але заўсёды падкрэслівала асобную гісторыю беларуска-летувіскіх земель. Але "Кур'ер Літоўскі" быў далёкі ад шавінізму і нацыянальнай выключнасці, газета адрознівалася талерантнасцю і імкнулася да супрацы паміж народамі.

Гэты кірунак трымаўся дзякуючы рэдактару, які ўсё жыццё застаўся верным сваім прынцыпам. […] І гэта стала хоць не галоўнай, але адной з прычын таго, што газета не магла стаць вельмі папулярнай, Янкоўскаму прыйшлося пакінуць пасаду рэдактара створанай ім газеты і на доўга, да самай вайны, пакінуць Вільню.

Ні як дэпутат Думы, ні як рэдактар, ні як публіцыст, Янкоўскі ніколі не быў палітыкам, але добра арыентаваўся ў палітычных справах і меў трапныя погляды на палітыкаў. Ён заўсёды заставаўся ўразлівым літаратарам і чалавекам мастацтва і таму не мог цалкам прыняць якую-небудзь выключную ідэю ці палітычную канцэпцыю, не мог стаць вызнаўцам нейкай палітычнай праграмы, дактрынёрам ці фанатыкам, а тым больш аддаць свой талент на карысць якой-небудзь партыі ці займацца агітацыяй. Таму ён не здабыў лаўраў як палітычны дзеяч, а яго пазіцыя прынесла яму шмат ворагаў, асабліва з лагера эндэкаў.

Але з-за вялікіх заслуг перад культурай, зараз у грамадстве змоўклі галасы непрыхільнікаў нашага юбіляра, і яго літаратурная праца прынесла агульную павагу і прызнанне. […]

L. A. [Людвік Абрамовіч] Jubileusz Czeslawa Jankowskiego // Preglad Wilenski. 1926. № 16. S. 4-5.

*Пераклад Леаніда Лаўрэша.*

# Марадзёры на старажытных могілках у Магілёве

У траўні і ліпені 2020 года мной было выяўлена знікненне ў Магілёве на старажытных Машэкаўскіх могілках некалькіх металічных надмагільных помнікаў. Адпаведна напісаў у міліцыю па гэтых фактах дзве заявы. Былі затрымана двое марадзёраў, якія здалі помнікі на металалом. 31 сакавіка 2021 года паводле пастановы суда Ленінскага раёна горада Магілёва першы злачынец прысуджаны да двух год папраўчых работ, а другі да паўтара гадоў. Многія жыхары Беларусі, неабыякавыя да гісторыі нашага краю ведаюць пра факты знішчэння старажытных могілак вандаламі і марадзёрамі. Але, як правіла, далей за "праведны гнеў" справа не ідзе. Таму заклікаю грамадскасць па выяўленні фактаў вандалізму пісаць адпаведныя заявы ў міліцыю і паведамляць у СМІ. Бо, калі не агучваць праблему аховы старажытных могілкаў, то адпаведна гэтая праблема і не будзе вырашацца.

*Алег Дзьячкоў. Магілёў.*



На фота: разрабаваны склеп.

*Дом Таўлая запрашае*

# Твар літаратуры ў люстэрку шаржу




Да Дня смеху - 1 красавіка - у работнікаў Дома Таўлая адносіны асаблівыя. Па-першае, сам Валянцін Таўлай, чыё імя носіць літаратурны аддзел Лідскага гісторыка-мастацкага музея, у гады вайны пісаў гумарыстычна-сатырычныя вершы для партызанскай газеты "Раздавім фашысцкую гадзіну!". Па-другое, куратара Дома Таўлая, навуковага супрацоўніка музея Алеся Хітруна многае звязвае з беларускім гумарыстычным часопісам "Вожык" (які, дарэчы, сёлета адзначае 80-гадовы юбілей): яго гумарыстычныя творы не раз друкаваліся ў гэтым часопісе, з "Вожыка" пачаўся выхад Алеся на прасторы рэспубліканскага друку. А яшчэ куратар Дома Таўлая ездзіў на свята гумару ў Аўцюкі - беларускую сталіцу гумару. Нарэшце, па-трэцяе, сябруюць з гумарам лідскія паэты - у іх шмат адпаведных твораў. Вось і было вырашана ў Доме Таўлая адзначыць Дзень смеху адкрыццём выстаўкі "Мастацкая мікстура - шарж і карыкатура", выстаўкі работ вядомага мастака-шаржыста Канстанціна Куксо (з эпіграмамі да гэтых шаржаў не менш вядомага беларускага паэта Рыгора Барадуліна).

- На Канстанціна Куксо я выйшаў праз беларускага літаратуразнаўца Сяргея Шапрана, з якім пазнаёміўся два гады назад у Менску, на кніжным фестывалі "Прадмова", - расказвае Алесь Хітрун. - Тады ж я набыў кнігу Сяргея Шапрана "Беларускі гістарычны анекдот", у якой сабраны анекдатычныя гісторыі з жыцця класікаў беларускай літаратуры. Аўтар кнігі збірае таксама шаржы, і на вокладцы кнігі змешчаны знакамітыя шаржы Канстанціна Куксо. Ёсць у літаратуразнаўца і кніга шаржаў мастака "Абразы без абразы". Пазней праз інтэрнэт я звязаўся з самім шаржыстам, які жыве ў Маскве, папрасіў у яго дазволу на выкарыстанне ягонай кнігі "Абразы без абразы" для выстаўкі ў Доме Таўлая ў Лідзе. І ён дазволіў. Дарэчы, родам Канстанцін Мікіціч з Менска, скончыў філалагічны факультэт БДУ, яго шаржы змяшчаліся ў многіх беларускіх і расійскіх часопісах і газетах, у тым ліку ў часопісе "Вожык".

Алесю пашанцавала, што патрэбная яму кніга шаржаў Канстанціна Куксо прысутнічала на выстаўцы мініяцюрных кніг з калекцыі мянчаніна Яўгена Ксяневіча, якая ладзілася ў Доме Таўлая год назад. Многія шаржы з кнігі Алесь тады сфатаграфаваў. У лідскіх бібліятэках гэтай кнігі, на жаль, няма. Пры падрыхтоўцы выстаўкі прыйшлося выкарыстаць таксама яе PDF-варыянт у інтэрнэце, архіў шаржаў, дасланы Сяргеем Шапранам.

Шаржы, прадстаўленыя на выстаўцы ў Доме Таўлая (больш за 40 работ), - на класікаў беларускай літаратуры, хаця ёсць у мастака і шаржы на беларускіх і расійскіх артыстаў, акцёраў, кампазітараў. Класікі хоць і выяўлены ў карыкатурным выглядзе, але не высмейваюцца - гэта проста погляд на іх мастака-шаржыста. Выстаўка, якая размясцілася ў калідоры літаратурнага музея, падніме настрой кожнаму, хто сюды зойдзе, падштурхне ўспомніць дзеячаў айчыннай літаратуры, былых і цяперашніх, убачыць іх асобы ў іншым ракурсе. Трэба адзначыць, што акрамя шаржаў Канстанціна Куксо і эпіграм Рыгора Барадуліна экспазіцыя змяшчае шаржы і эпіграмы іншых аўтараў. На выстаўцы таксама змешчаны памятныя сувеніры, прывезеныя Алесем Хітруном у 2012 годзе з беларускай сталіцы гумару - Аўцюкоў.

Першымі наведвальнікамі новай выстаўкі сталі ў дзень яе адкрыцця - 1 красавіка - лідскія паэты, у творчым багажы якіх ёсць гумарыстычныя творы (тады ж, на адкрыцці выстаўкі, у Доме Таўлая





адбыўся своеасаблівы вечар гумару, на якім паэты выступалі, чыталі вершы, расказвалі смешныя гісторыі з жыцця). З вуснаў Алеся Хітруна прагучала прапанова да лідскіх паэтаў дасылаць у Дом Таўлая анекдатычныя гісторыі пра сябе, каб у будучым гэтыя гісторыі сабраць у адной кнізе - лідскім аналагу кнігі Сяргея Шапрана "Беларускі гістарычны анекдот". Праз газету Алесь Хітрун звяртаецца і да лідскіх мастакоў - паспрабаваць сябе ў ролі шаржыстаў і дасылаць у літаратурны музей шаржы на паэтаў Лідчыны (канешне ж, без абразы - як у знакамітага Канстанціна Куксо).



***Аляксей КРУПОВІЧ.***

# Моладзевая сталіца 2021 года запрасіла ў госці

Гарадзенская вобласць вельмі багатая на аб'екты гісторыка-культурная спадчыны. Пра гэта вучні сярэдняй школы № 11 г. Ліды ведаюць дакладна. Іх турыстычныя маршруты прайшлі праз шматлікія райцэнтры Гарадзеншчыны: Навагрудак, Дзятлава, Слонім, Іўе, Ашмяны, Смаргонь, Астравец. Чарговае падарожжа прывяло школьнікаў у Моладзевую сталіцу 2021 года - горад Гародню. Надзвычай цікавай і запамінальнай для вучняў 6-8 класаў стала гэтая паездка.

Гародня - горад, які называюць сёння і горад-музей, і каралеўскі горад. Сапраўды, як заўважылі дзеці, кожны будынак у гістарычным цэнтры горада мае сваю багатую гісторыю. Два замкі, храмы розных канфесій, палацы, музеі, помнікі і шмат іншых аб'ектаў. А яшчэ ўразіў вучняў і той факт, што захаваліся ў Гародні будынкі розных гістарычных эпох: ад XII да XIX стагоддзяў. Гораду пашчасціла, бо ў цэнтры захавалася яго гістарычная планіроўка.





Што ж убачылі юныя падарожнікі і якія аб'екты наведалі? А пачалося знаёмства з Моладзевай сталіцай з пешаходнага шпацыру: вучні ўбачылі і пачулі цікавыя факты аб такіх значных гісторыка-культурных аб'ектах як сінагога, пажарная каланча, стары і новы замкі. Падчас экскурсіі школьнікі даведаліся, што гісторыя і развіццё горада ў розныя часы залежыла ад такіх вядомых у гісторыі нашай краіны людзей, як Давыд Гарадзенскі, Вітаўт, Стэфан Баторы, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, Антоні Тызенгаўз і шмат іншых.

Сярод музеяў, якія наведалі школьнікі, сталі адзіны ў Беларусі Музей гісторыі рэлігіі, Музей-аптэка і Анатамічная экспазіцыя "Гродзенская кунсткамера". Багатыя і змястоўныя экспазіцыі, рознапланавыя па накірунку і тэмах, музеі выклікалі ў дзяцей вялікую цікавасць.

Працягам знаёмства з горадам-музеем стала наведванне храмаў і памятных мясцін. Самымі старажытнымі і значнымі са шматлікіх святынь Гародні, якія наведалі школьнікі, сталі: Кафедральны сабор Святога Францішка Ксаверыя, пабудаваны ў пачатку XVIII стагоддзя, памятны знак на месцы, дзе калісьці ўзвышалася Фара Вітаўта (Сафійскі сабор), якая праіснавала з XIV стагоддзя да 1961 год, і, канешне, Каложская царква, помнік архітэктуры XII стагоддзя. Кожны храм запомніўся дзецям і знешне, і сваім унутраным убраннем, і святынямі, якія беражліва зберагаюцца там на працягу не аднаго стагоддзя.

Атрымаўшы шмат новых і змястоўных ведаў, крыху змораныя, але задаволеныя падарожжам па старажытным вуліцам Моладзевай сталіцы 2021 года, вучні адзінаццатай школы вярнуліся ў Ліду і падзяліліся ўражаннямі з роднымі і сябрамі, каб заахвоціць іншых наведаць цудоўны і надзвычай цікавы горад Гародню!

***Наталля Анашкевіч,***
*класны кіраўнік 8 Б класа сярэдняй школы № 11 г. Ліды.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:*** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://nslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 5.04.2021 г. у 17.00. Замова № 781.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,65 руб., 3 мес.- 7,95 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.